*Яраслаў ЧАПЛЯ*

# Сацыялістычны кацёл

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)*

*Мне помнится третьего марта —*
*Этот день не забуду вовек,*
*Как рекою горячие слёзы*
*Проливал не один человек.*
*Было пасмурно серое утро.*
*Я пред ним всю ту ночь не спала,*
*Я в мешки собирала хозяйство,*
*Что десятками лет нажила.*
*Чу! Послышалось фырканье коней,*
*Под полозьями снег заскрипел —*
*Это мчались подводы за нами,*
*И прощальную песнь кто-то пел.*

Гэтыя куплеты я чуў ад людзей, якія жылі ў розных пасёлках. Вельмі шкада, што памяць маіх субяседнікаў не захавала цалкам песню, якую можна лічыць народнай. Яна, дарэчы, яшчэ адно сведчанне таго, што масавае высяленне беларускіх сялян на Поўнач пачалося менавіта трэцяга сакавіка.

Складалі песні і пра сваё новае жыццё:

*А у нас десятских много,*
*Все в суконных пиджаках.*
*Выполняют пятилетку*
*На голодных кулаках.*

Або такая прыпеўка:

*Эх ты, Сталін, эх ты, Сталін,*
*Што ж ты нарабіў:*
*Сам ты едзеш, куды хочаш,*
*А нам шлях закрыў.*

Хто ведае, можа за распяванне такіх песень і прыпевак не адзін чалавек перасяліўся з барака спецпасёлка ў барак ГУЛАГа.

## Паўночны «інтэрнацыянал»: дні і пакуты

Вясна 1931 года (як, зрэшты, і 32-га) выдалася галоднаю. Ды выратоўваў лес, які за зіму пагубіў столькі народу. Збіралі бярозавыя пупышкі, церлі іх, дадавалі мукі і пяклі з гэтага месіва ляпёшкі. А яшчэ ўпадабалі траву, на ножцы — пупышка, якую называлі песцік. Гэта пупышка, як і бярозавая, ішла на кашу, а як голад быў невыносным, то яе і сырою елі.

Відаць, маштабы людской трагедыі прыцягнулі ўвагу нават кіраўніцтва ГУЛАГа, бо ў дакладной запісцы ў ЦКК ВКП(б) і РКП яно пісала: "Са жніўня 1931 г. ...становішча спецперасяленцаў у лясной прамысловасці, асабліва Уральскай вобласці і Паўночным краі, рэзка пагоршылася. Усюды ў ЛПГ (леспрамгасах — **Я.Ч.**) ...адзначаны выпадкі ўжывання ў ежу розных неядомых сурагатаў, а таксама паяданне катоў, сабак і трупаў жывёлы. На глебе голаду мелі месца самазабойствы, павялічылася злачыннасць. Галодныя спецперасяленцы крадуць хлеб і скаціну ў навакольнага насельніцтва, у прыватнасці, у калгаснікаў. Знясіленыя спецперасяленцы не ў стане выпрацаваць норму і ў адпаведнасці з гэтым атрымліваюць меншую колькасць прадуктаў і становяцца зусім непрацаздольнымі. Адзначаны выпадкі смерці ад голаду спецперасяленцаў на вытворчасці і адразу пасля вяртання з работ".

Разумеючы, што "кулакам" харчу не навозішся, кіраўніцтва спецпасёлкаў пачало ствараць пры іх сельскагаспадарчыя арцелі. Яны павінны былі забяспечваць высланых мясам, малаком, бульбай, гароднінай. Перасяленцы атрымалі насенне, у пасёлкі пачалі завозіць кароў, коней, свіней. Дзякуючы гэтай скаціне з'явілася работа ў людзей старэйшага ўзросту і не надта моцнага здароўя, якія не маглі працаваць на лесапрацоўках. А гэта значыць, што і яны ўжо атрымлівалі паёк большы — не як утрыманцы, а як рабочыя.

Былым сялянам дазвалялася займаць ляды пад свае агароды. А для гэтага, прыйшлі да высновы чыноўнікі, без асабістай уласнасці ўсё ж не абысціся. Наконт яе быў падрыхтаваны спецыяльны дакумент. Высланай сям'і магло належаць: "коней — 0,5, кароў — 0,4, вупражы, саней і возаў — па 0,5 камплекта, плугоў — 0,25, барон — 0,1, кос — 2, сярпоў — 1, матыг — 1, рыдлёвак — 1, сякер — 1, піл папярочных — 1, піл падоўжных — 0,1, рознага цяслярска-сталярнага і кавальска-слясарнага інструмента — на 15 рублёў". Зварыла ж у некага галава стварыць такі ўзор бюракратызму і бязмежнага глупства!

Жыццё перасяленцаў памалу пачало наладжвацца. Людзі мелі свой кут, дзесьці ў 1933 годзе ім ужо пачалі плаціць за работу грашыма. Дзеці вучыліся ў школах, самых лепшых з іх накіроўвалі ў тэхнікумы, пасля якіх яны павінны былі вярнуцца ў свае леспрамгасы. Яшчэ ў 1933 годзе вялікай навіной было, што хлопец з дзяўчынаю пабраліся. А ў першыя гады высылкі, ці любіліся, — пытаўся я ў сваіх субяседнікаў, — маладзіц жа многа прыехала разам з бацькамі. Не, адказвалі мне, не да любові было... У 1933 годзе адкрыўся дзіцячы дом на 50 сірот з ліку высланых. На кожнай рабоце ў лесе і лесабіржах — шматгектарных плошчах, прызначаных для накаплення і частковай перапрацоўкі драўніны, разгортвалася шырокае сацыялістычнае спаборніцтва... А вось святы пасапраўднаму не святкавалі шмат гадоў. У сярэдзіне трыццатых, праўда, у леспрамгасаўскіх клубах пачалі праводзіць урачыстыя вечары з нагоды рэвалюцыйных свят, нават дня Парыжскай камуны, але ў душы перасяленцаў гэтыя дні пазначаны не былі, таму ад іншых дзён яны нічым не адрозніваліся. Праўда, афіцыйна яны лічыліся нерабочымі, і дзе-нідзе людзі сапраўды адпачывалі. Але часцей за ўсё менавіта ў гэтыя дні выхады на работу былі стопрацэнтныя, бо адміністрацыя леспрамгасаў плаціла па двайным тарыфе.

Хачу толькі ўнесці адно ўдакладненне. Рэвалюцыйныя святы перасяленцы не адзначалі зусім не таму, што былі "кулакамі". Іх жыццё на высылцы да канца трыццатых гадоў было фактычна барацьбой за існаванне, а маральна прыгнечанаму чалавеку, як вядома, не да свят. Нават Вялікдзень і Каляды, святы ўсіх свят у беларускай вёсцы і ва ўсім хрысціянскім свеце, тут таксама праходзілі амаль незаўважна. Хіба што хтонебудзь трапляў у хату да мясцовых жыхароў. Тады хоць наесціся мог ад пуза.

Пра ўзаемаадносіны беларускіх сялян з мясцовымі варта пагаварыць асобна. Гэтая тэма — адна з нямногіх светлых у размове пра жыццё нашых землякоў у Котласкім краі.

Перасяленцаў мясцовы люд называў "мулёнамі" — па-тутэйшаму значыць — няшчаснымі. Але да пасажыраў першых эшалонаў аднесліся насцярожана, а многія — з бояззю. Што вы хочаце — жылі вёскі спакойна вякамі, стварыўшы дзякуючы адноснай ізаляванасці ад вялікага свету сваю мікракультуру, маючы свой, здавалася, непахісны ўклад жыцця. А тут — такое нашэсце розных народаў, быццам Вавілонская вежа ўпала на берагі Дзвіны. Было ад чаго архангельскаму мужыку затаіцца за сваімі варотамі, каб прыгледзецца, зразумець, як паводзіць сябе. Тым больш што прапаганда зрабіла сваю справу: для яго ўсе гэтыя людзі, незалежна ад нацыянальнасці, былі ворагамі народа, якія за самай высокі пілі кроў батракоў і беднаты.

Ды надоўга тае прапаганды ў свядомасці селяніна, які іншых слухаў, а свой розум меў, не хапіла. Ён хутка разабраўся, што "кулакі" — такія самыя працаўнікі, як і ён сам, якія жылі з мазаля. Ён аддаваў належнае акуратнасці паволжскіх немцаў, рахманасці беларусаў, годнасці данскіх казакоў... Не мог толькі ўзяць у толк, як людзі ў белых чалмах спакойна п'юць ваду, у якой ужо чалавек дзесяць абмылі рукі — і не гідзяцца, і жываты ў іх не баляць.

І неўзабаве менавіта ў навакольныя вёскі пайшлі перасяленцы шукаць паратунку. Адны абменьвалі ў мясцовых жыхароў якія-небудзь рэчы на муку ці крупы, іншыя пасылалі да іх сваіх малых жабраваць, і тыя заўсёды прыносілі і хлеб, і бульбу, а то і кавалак пірага, трэція хаваліся ў іх ад "памочнікаў", або як іх яшчэ называлі — "сабакаловаў" — памочнікаў камендanta, якія шукалі ўцекачоў, чацвёртыя грэліся ў сцюдзёныя зімовыя ночы... Якія формы ні мелі адносіны мясцовых жыхароў да перасяленцаў — міласэрнасці ці гандлёва-мяняльныя, ясна галоўнае — архангельскі мужык выратаваў ад смерці не адну душу, чужую ў гэтым краі, ён дапамог прыезджым ужыцца ў новыя абставіны, навучыў ладзіць з паўночнай прыродай.

Але няправільна будзе гаварыць, што перасяленцы, і, у прыватнасці, з Беларусі толькі "бралі" і нічога не "аддавалі" мясцовым сялянам. Тыя, пакуль "раскулачаныя" не пачалі садзіць бульбу, не ведалі, як яе на полі даглядаць. Як кінуць, бывала, насенныя клубні ў зямлю, так да капання ўраджаю на полі не паказваюцца, хіба што толькі для таго, каб лебяду з асотам вырваць. А пра акучванне ніхто паняцця не меў. Не бачылі тутэйшыя агароды ні морквы, ні буракоў. А як пачалі перасяленцы памідоры садзіць — тут мясцовыя людзі ўсхадзіліся не на жарт — "што вы ўсякім паскудствам добрую зямлю губіце!".

Затое цяпер на стале карэнных жыхароў звычайнымі сталі салата з памідораў і боршч, а на стале тутэйшага беларуса — грыбоўніца — суп з маладзенькіх баравічкоў і рыбнік — пірог з рыбаю. Толькі вось дранікі ў сем'ях паўночнікаў за яду ніяк не прызнаюць...

## Кляймо на ўсё жыццё

Але вернемся ў трыццатыя гады.

Плён працы спецперасяленцаў быў відавочны: колькасць высакаякаснага лесу, які пастаўляўся на патрэбы індустрыялізацыі, усё павялічвалася, значна больш пачалі прадаваць яго і за мяжу. Але леспрамгасы Котласкага раёна атрымлівалі ўсё новыя і новыя ін'екцыі рабочай сілы. У Беларусі, як і ў іншых раёнах краіны, ніяк не маглі вынішчыць пад корань "кулацкае племя", выяўлялі ўсё новых і новых кулакоў і падкулачнікаў, таму эшалоны са спецперасяленцамі па маршруце Беларусь—Котлас працягвалі курсіраваць. Відаць, апошняя хваля высялення беларускіх сялян у Архангельскі край прыйшлася на 1935 год. Толькі цяпер палітыка каланізацыі гэтага рэгіёна вялася больш разумна. Перасяленцам ужо дазвалялася браць з сабой коней, з некаторых раёнаў прывозілі і кароў. Да таго ж людзі прыязджалі на больш-менш абжытыя іх папярэднікамі месцы. А значыць, і фізічныя, і маральныя страты яны неслі меншыя.

На 1 студзеня 1941 года ў Архангельскай вобласці знаходзілася 40.066 спецперасяленцаў — 8.268 сем'яў. Акурацісты з НКУС палічылі высланых і па нацыянальнасці. Палякаў — 32.828 чалавек, яўрэяў — 11, украінцаў — 1.693, немцаў — 81, беларусаў — 4.850, іншых — 623.

На жаль, аналагічнай статыстыкі ні за адзін з трыццатых гадоў у Архангельскіх архівах мне знайсці не ўдалося. Але я перакананы, што ў зводках за 1931—1939 гады лічба ў графе "беларусы" была б як мінімум на трэць, а то і напалавіну вышэйшай. Што ж датычыцца вялікай колькасці палякаў, якія знаходзіліся ў Архангельскай вобласці ў 1941 годзе, то зразумела, што апынуцца тут ім дапамог верасень 1939-га.

Нямецка-фашысцкую навалу былыя "кулакі", а цяпер рабочыя леспрамгасаў, успрынялі гэтак жа, як і ва ўсёй краіне, — з нянавісцю да ворага, з жаданнем хоць нечым дапамагчы Чырвонай Арміі. Вядома, было б наіўным сцвярджаць, што сярод перасяленцаў не знаходзілася ніводнага чалавека, які б не жадаў перамогі Гітлеру. Але калі такія і былі, гаварылі мне ў Котласе, то толькі з ліку людзей старэйшага пакалення. Моладзь, якая хоць і насіла ў сабе крыўду на савецкую ўладу, тым не менш, не злучаная з уласнай гаспадаркай так моцна, як іх бацькі, мела іншую псіхалогію — назваць яе прыватнаўласніцкай не мог бы нават самы зацяты вораг "перажыткаў капіталізму". Гэта адчувалі, відаць, і органы ўлады, бо ў войска мужчын-спецперасяленцаў пабралі ў 1942 годзе — калі ў Чырвонай Арміі добрых узбраенняў не хапала і па гэтай прычыне ёй было патрэбна новае і новае "гарматнае мяса". А "кулацкія сынкі", як і іх бацькі, лічылі за шчасце трапіць на перадавую. Адсюль кожная сям'я спецперасяленцаў паслала мужчыну, а то і не аднаго, на фронт. Замест многіх з іх назад прыйшлі пахавальныя. М.П.Войцік перакананa гаварыў мне: з ліку беларускіх спецперасяленцаў не было ніводнага здрадніка. У Мікалая Піліпавіча наконт гэтага, вядома, няма ніякага афіцыйнага заключэння, ды і наўрад ці хто яго калі-небудзь рабіў, але як не верыць майму субяседніку: хто лепш можа ведаць яго равеснікаў, іх настрой і іх думкі.

І ўвогуле, у памяці мясцовага насельніцтва нашы суайчыннікі сваёй працавітасцю, сумленнасцю, адкрытасцю пакінулі самую добрую памяць. Калі я падчас работы над гэтым нарысам звяртаўся па дапамогу ў афіцыйныя інстанцыі і да простых людзей і калі гаварыў, што шукаю сляды сваіх землякоў, бадай, усе лічылі сваім абавязкам зазначыць: о, беларусы — цудоўныя людзі. І поўніліся куточкі маёй памяці расказамі, у якіх сяляне з-пад Мазыра, Оршы ці Дрыбіна выступалі лепшымі работнікамі і лепшымі суседзямі. Дзеці "кулакоў" яшчэ нават пры Сталіне пачалі займаць кіраўніцкія пасады, у тым ліку і выбарныя, і, калі беларуская сям'я перабіралася ў іншае месца, яе праводзілі, як правіла, са шкадаваннем.

Зараз у народнагаспадарчым комплексе Котласа і Котласкага раёна працуе ўжо трэцяе пакаленне беларусаў, на падыходзе — чацвёртае. Многія з іх ні разу не былі на радзіме продкаў, і ніхто з іх не ведае беларускай мовы. Таму і беларускую перыёдыку — часопісы "Работніца і сялянка", "Вожык", газету "Звязда" — 10—15 гадоў там чыталі ў асноўным людзі старэйшага пакалення. Яны хацелі б пачытаць і мастацкую літаратуру, але дзе яе маглі ўзяць? У Котласе кніг на беларускай мове не прадавалі, у Архангельскай цэнтральнай кнігарні я знайшоў толькі танюткі зборнік вершаў паэта, які на Беларусі і тады і сёння вядомы больш у коле членаў Саюза пісьменнікаў. Зараз жа ў Архангельскую вобласць паступае толькі адна газета на беларускай мове і то ў адным экземпляры — "Голас Радзімы". Як сказаў мне старшыня згуртавання беларусаў вобласці Васіль Давыдоўскі, "як прыязджаем у Беларусь у водпуск, накупляем беларускіх кніг, а потым яшчэ год чытаем".

З сямідзесяці гадоў, якія нашы землякі жывуць у Паўночным краі, прыкладна сорак пяць лічаць сябе роўнымі з мясцовымі жыхарамі. Хаця фактычны працэс рэабілітацыі спецперасяленцаў пачаўся адразу пасля вайны, калі ім выдалі пашпарты і знялі абмежаванні на перамяшчэнне, юрыдычны адбыўся толькі ў 1990 годзе, калі Прэзідэнт СССР М. С. Гарбачоў выдаў Указ "Аб аднаўленні правоў усіх ахвяр палітычных рэпрэсій 20—30-х гадоў".

Я невыпадкова вызначыў сярэдзіну пяцідзесятых гадоў як умоўную мяжу, калі адбываўся пералом у псіхалогіі адносна перасяленцаў — у псіхалогіі і іх саміх, і акаляючых. Менавіта к таму часу словы "кулак", "спецперасяленец" пачалі знікаць з лексікону на бытавым узроўні, хаця на афіцыйным гэта здарылася гадоў на пяць раней.

Але яшчэ доўга дзяцей высланых беларускіх сялян упікалі за мінулае, г. зн. — немаведама за што. Гратэскны, хаця і даволі характэрны, прыклад гэтага — гісторыя з Антонам Аляшкевічам, сынам беларускага перасяленца, аператарам валачнай машыны леспрамгаса ў Котласкім раёне. Чалавек выключна працавіты, ён, колькі шчыраваў у лесе, увесь час наперадзе — і па выкананні плана, і, адпаведна, па атрымліваемай зарплаце. Калі быў кандыдатам у члены КПСС, прыйшлося яму прасіць дапамогі і падтрымкі ў парткаме. А там ад яго проста адмахнуліся. І Аляшкевіч, калі прыйшоў час (а было гэта ўжо ў сямідзесятых) у КПСС уступаць не захацеў. Паслухайце, што з гэтай нагоды гаварылася на партыйным сходзе пярвічнай партарганізацыі: "Ён хоча ўсе грошы забраць, працуе толькі на тое, каб набіць кішэні грашыма", "Ён не вызваліўся ад перажыткаў сваіх бацькоў. На такіх людзей у нашай краіне нельга спадзявацца". А раз "не вызваліўся" і "нельга спадзявацца", то і звання Героя Сацыялістычнай Працы, паперы на прысваенне якога ўжо хадзілі па інстанцыях, не далі.

Вось дзе ўжо сапраўды: "все это было бы смешно, когда бы не было так грустно...". Але тут нават не маркота, тут адчай бярэ, калі ведаеш, як паламалі людзей гады, адлік якіх пачаўся 3 сакавіка 1930 года, як дзесяцігоддзі кожны з іх жыў з кляймом "чалавек другога гатунку", як ад гэтага кляйма яны самі не маглі вызваліцца, лічы, да сваіх апошніх дзён. Нават у 1990 годзе — праз 60 год пасля высялення з Беларусі адзін з маіх субяседнікаў у Котласкім раёне вельмі прасіў, каб я не называў у газеце яго прозвішча, бо ні жонка, ні дзеці, ні лепшыя сябры дагэтуль не ведаюць, што ён з раскулачаных, і не дай Бог даведаюцца. Толькі пры развітанні махнуў старэчай рукою: "А, указвайце і маё прозвішча, чаго мне ўжо баяцца". А калега-журналістка, расказвала: яна толькі пасля ўказа Гарбачова даведалася, што яе бабуля была спецперасяленкай. Усе гады гэтую тайну ад яе ўтойвалі, як маглі.

Не магу не сказаць і пра іншае. Ёсць сярод соцень метраў магнітафоннай стужкі, якія захавалі расказы і плач маіх субяседнікаў у Архангельскай вобласці, і тыя, дзе запісаны словы аднаго з высланых на Поўнач першым эшалонам. Словы такія: "Каб Сталін устаў і людзей не нішчыў, а толькі парадак навёў — от добра было б!".

Якая ўсё-ткі недаступная таямніца — Чалавек!

***

Калі дзеці спецперасяленцаў спыталі неяк у свайго настаўніка, за што пакутуюць тут іх бацькі і яны самі, той адказаў: гэта — сацыялістычны кацёл, і хто ў ім пераварыцца, той будзе сапраўдным савецкім грамадзянінам.

Як крыўдна, што мы загубілі столькі жыццяў і ўгробілі столькі гадоў, пераварваючы, перакоўваючы, перавыхоўваючы адзін аднаго, замест таго каб будаваць нашу Беларусь па натуральных чалавечых і эканамічных законах.

Як крыўдна!

*Прыкладна такое жыллё будавалі сабе спецперасяленцы ў першы год свайго знаходжання на Поўначы.*

**Рэканструкцыя Валерыя ВЯРЦЕЙКІ.**

СУД

## Данькову сели на «хвост»?

**Решением суда Московского района столицы подлежат конфискации и обращению в доход государства столы для игры в покер и рулетку, принадлежащие УП "Даньков-клуб".**

Во время проверки финансово-хозяйственной деятельности клуба стражи порядка выявили нарушение декрета президента: столы в зале казино, на которых велась игра, не были зарегистрированы в налоговой инспекции. Что и стало основанием для суда принять решение о конфискации. К слову, стоимость игровых столов превышает 15 тысяч долларов.

За комментарием репортер "Народной воли" обратился к владельцу клуба Юрию Данькову, тут-то и выяснилось, что о строгом решении суда бизнесмен узнал от журналиста.

— Я знаю, что была проверка, — говорит Юрий Петрович, — наш представитель был в суде, но почему мне ничего не сообщили? Буду разбираться. Столы мы приобрели в лизинг. Вообще я считаю происшедшее недоразумением: все случилось по вине одного из сотрудников, который ошибочно написал не тот инвентарный номер. Безусловно, будем оспаривать решение районного суда.

На вопрос, не смущает ли его, что проверку клуба проводили сотрудники Управления по борьбе с организованной преступностью, Даньков ответил:

— Кто нас только не проверяет! Не знаю, какую организованную преступность они искали в моем клубе. Может, просто хотели на "хвост" сесть?

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

12

сакавіка

**ПЯТНІЦА**
Усх. 6.32 Зах. 18.09
Даўж. дня 11.37
Апошняя квадра
13 сакавіка

**90 гадоў** з дня нараджэння У.С. Клішэвіча (1914—1978), беларускага паэта

# Крыжаванка

**Па гарызанталі:** 1.Стройнае спалучэнне некалькіх (ад трох да шасці) гукаў. 3.Вінтоўка з пакарочаным ствалом. 5.У матэматыцы, фізіцы: месца, якое не мае вымярэнняў. 7.Перыядычны друк. 12.Устаноўлены парадак з'езда, схода. 13.Вялікая лыжка для налівання стравы, падбівання теста і іншага. 15.Звязаны з гандлем у розніцу, г.зн. паштучна. 17.Тое, што і абарыгены. 20.Прагрэсіўны грамадскі дзеяч, распаўсюджвальнік передавых ідэй, навукі і асветы. 22.Чалавек з хваравітай цягай да ўжывання наркотыкаў. 25.Не звязаны з прадпрымальніцкай дзейнасцю прыбытак ад капіталу, маёмасці або зямлі. 26.Нечакана, неспадзявана. 28.Апошняя эпоха каменнага веку. 30.Выпуклае або ўвагнутае аптычнае шкло. 32.Самы вялікі крывяносны сасуд, які ідзе ад сэрца і забяспечвае ўсе органы цела кроўю, багатай кіслародам. 34.Частка конскай вупражы — спецыяльная падушка на спіне пад пасак. 36.Баваўняная тканіна з гладкім бліскучым бокам. 38.Марка фотаапарата. 39.Нечакана ўпасці на слізкім месцы. 44.Асоба, якая выступае на судзе ў абарону каго-небудзь. 46.Мужчынскае імя. 48.Сістэма дзяржаўных або грамадскіх парадкаў. 49.Паселішча на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі. 50.Рысы твару. 52.Буйны населены пункт у Саратаўскай вобласці. 55.Пасяліцца. 58.Недастаткова дужы. 60.Лішні клопат. 62.Пачаўшы есці, адчуць смак. 65.Маладая трава, якая вырасла на месцы скошанай у той жа год. 67. Рэлігійнае служэнне бажаству і звязаныя з гэтым абрады. 68.Свавольнае безразважнае дзіця. 70.Чалавек, які ў вольны час займаецца чымнебудзь не для заробку, а па ахвоце. 72.Пісьмовы дакумент на выдачу або атрыманне чаго-небудзь. 74.Народнае гулянне — маскарад з танцамі, гульнямі. 78.Канчатковае звальненне з вайсковай службы. 82.Асоба, якая арандуе зямлю і іншае. 83.Пэўная колькасць асоб, устаноўленых па штаце. 84.Пазбаўлены парадку, пераблытаны. 85.Горад у Ленінградскай вобласці. 86.Доўгая вяроўка з пятлёй на канцы для лоўлі жывёл. 87.Раптоўны моцны парыў ветру. 88.Чарцёж зямной паверхні або зорнага неба. 89.Подкуп службовай асобы з мэтай атрымання выгады.

**Па вертыкалі:** 2.Вайсковае злучэнне з некалькіх дывізій або брыгад. 4.Горад у Рэспубліцы Саха. 6.Невялікі арган у выглядзе скрынкі, на якім ігралі даўней вандроўныя музыканты. 8.Крылатае страшыдла з ільвіным тулавам і галавой жанчыны (грэч.). 9.Правадыр сусветнага пралетарыяту. 10.Наносны пясчаны ўзгорак у стэпах, пустынях. 11.Месца гандлю, а таксама гандаль прадуктамі харчавання і таварамі шырокага ўжытку. 14.Французская мера даўжыні. 16.Прыгнёт, няволя. 18.Пасудзіна, якая зберагае змешчанае ў ёй ад астывання або ад награвання. 19.Фанетычная асаблівасць беларускай дыялектнай мовы. 20.Помнік у выглядзе гранёнага слупа, звужанага кверху. 21.Упакоўка. 23.Рыба з ласосевых. 24.Кароткі запіс. 27.Матэрыял для пісьма і іншых мэт, выраблены з драўлянай і іншай масы. 29.Чалавек, які чытае лекцыі. 31.Тварам уніз. 33.Пакаленні, якія паходзяць ад аднаго продка. 35.Парода сабак. 37.Дзеці Ніобы (грэч.). 38.Хімічнае злучэнне, у якім маецца вадарод, здольны замяшчацца металам з утварэннем солі. 40.Зборнік геаграфічных карт. 41.Вонкавы слой лупіны цытрусавых. 42.Чулыя адносіны. 43.Знак задыяка. 45.Дрэва. 47.Буйны населены пункт на рацэ Дзеп Хабараўскага краю. 51.Рад аднародных прадметаў адзін за адным. 53.Масавае звальненне рабочых і закрыццё прадпрыемства як адна з форм барацьбы буржуазіі супраць рабочага класа. 54.Кусок абпаленага, абгарэлага дрэва. 56.Рэальнасць. 57.Рыбалоўная снасць (гл. здымак). 59.Прыток Волгі. 61.Рака, якая працякае па Акцюбінскай і Гур'еўскай абласцях. 63.Ніжняя або ўнутраная частка, апора чаго-небудзь. 64.Прыбор, прыстасаванне для якой-небудзь пэўнай работы. 66.Закругленне на краі дошкі. 67."Падземная" жывёліна. 69.Мера вагі, роўная 4,26 г (ужывалася да ўвядзення метрычнай сістэмы). 71.Чалавек, які адмаўляе ўладу, арганізаваную палітычную барацьбу. 73.Уніз, да зямлі. 75.Каўпак на лямпу. 76.Новая эканамічная палітыка — гаспадарчая палітыка Савецкай улады. 77.Пачатак руху у якім-небудзь напрамку. 79.Каштоўнасці, схаваныя ў патаемным месцы. 80.Буйны населены пункт у Омскай вобласці. 81.Від мэблі для сядзення і ляжання (са спінкай і падлакотнікамі).

**Склаў Уладзімір ГАРБАЧОЎ.**

## Адказы на крыжаванку, надрукаваную ў № 40

1.Цырцэя. 2.Царыца. 3.Элегія. 4.Локаць. 5.Гетэра. 6.Кольца. 7.Прэмія. 8.Бацька. 9.Пясняр. 10.Собаль. 11.Нянька. 12.Карась. 13.Ракіта. 14.Сястра. 15.Аматар. 16.Бяседа. 17.Магніт. 18.Малады. 19.Лавіна. 20.Маліна. 21.Ланцуг. 22.Асілак. 23.Гурман. 24.Каліна. 25.Малага. 26.Сілуэт. 27.Балада. 28.Страта. 29.Банкет. 30.Тантал. 31.Сектар. 32.Рэшата. 33.Справа. 34.Тэраса. 35.Венера. 36.Манета. 37.Певень. 38.Сутана. 39.Нептун.

## Зноў убачым дружыннікаў

Усё новае — добра забытае старое. Што і пацвярджае сучасная практыка адраджэння добраахвотных народных дружын, без якіх, відаць, наша дзяржава, узброеная міліцыяй, не можа справіцца з крадзяжамі, хуліганствам, п'янымі дэбошамі з панажоўшчынай ды іншымі антыграмадскімі праявамі.

Першыя адроджаныя народныя дружыны зарэгістраваны сёлета ў Оршы — адным з найбольш крымінагенных гарадоў Беларусі. Пакуль такіх дружын 14, але на падыходзе — яшчэ 5. Агульная колькасць дружыннікаў складае каля 100 чалавек. Найбольш масавыя фарміраванні — на прадпрыемствах, дзе ёсць вострая патрэба ў барацьбе з "несунамі" — на камбінаце хлебапрадуктаў, малочным камбінаце і г.д.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**



## Пятница, 12 марта

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 20.00** "Деловая жизнь".
**08.45, 12.10, 16.45, 20.05** "Моя страна".
**09.10** Сериал **"Одиссея".**
**10.05 "Время – деньги".** Сериал.
**11.05 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.25** Мелодрама **"Дураков нет".**
**14.20** "Все нормально, мама".
**15.10** Сериал **"Студенческая жизнь".**
**16.05** "5х5".
**17.10** "Звездный дождь".
**18.10** Фильм **"Весна на Заречной улице".**
**21.00** "Панорама".
**21.50** Специальный репортаж.
**22.00** Мелодрама **"Осень в Нью-Йорке".**
**23.55** Детектив **"Обход".**

### ОНТ

**07.00, 09.00, 18.00, 20.30, 00.00** Наши новости.
**07.05** "Наше утро".
**09.05** Сериал **"Клон".**
**09.55** Сериал **"Отель исполнения желаний".**
**10.25** "Дом".
**11.10** Мультсериал "Принцесса".
**15.10** "Город женщин".
**16.00** Сериал **"Берег мечты".**
**16.50** "Большая стирка".
**18.10** Сканер.
**18.25** "Поиски затонувших кораблей".
**18.55** "Поле чудес".
**20.00** Время.
**21.00** "Фабрика звезд-4".
**22.40** Что? Где? Когда?

### РОССИЯ

**07.45, 19.55** Сериал **"Тайны следствия-3".**
**08.50** "Короткое замыкание".
**09.50** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**10.20, 19.30** Местное время. Вести-Москва.
**10.50** Мусульмане.
**11.00** Вся Россия.
**11.15** Москва—Минск.
**11.30** Колоссальное хозяйство.
**11.50, 21.00** Сериал **"Пан или пропал".**
**16.10** Сериал **"Люди и тени-2".**
**17.05** Сериал **"Главные роли".**
**18.00** Сериал **"Вкус убийства".**
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**22.00** "Звуковая дорожка-2004".
**23.55** Фильм **"День полнолуния".**

### ЛАД

**06.30** Euronews.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Мгновение вечности".
**08.30** "Другие танцы".
**08.40, 22.05** Сериал **"Проклятый уютный дом".**
**09.30** "Свет далекой звезды. Сергей Катков".
**09.55** "Играет Ю.Блинов" (фортепияно).
**10.05, 18.20** "Между нами, женщинами".
**10.25, 21.15** Сериал **"Грешная Анхелика".**
**11.15, 13.00** "Обычный необычный день".
**11.45, 18.40** Сериал **"Американская трагедия".**
**13.30** "Пастушка и трубочист". Мультфильм.
**14.10** "Время кино".
**15.05** Мультфильмы.
**15.30** "Учительская".
**15.40** "Эх, анекдот, анекдот".
**15.55** Драма **"Дикая охота короля Стаха".**
**18.05** "Москва—Минск".
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".

### НТВ

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** Сегодня.
**09.25** "Их нравы".
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Она написала убийство".**
**17.35** Протокол.
**18.35** "Свобода слова".
**19.55** Фильм **"Бриллианты остаются навсегда".**
**22.30** Братья Кличко. Лучшие бои.

### СТВ+RenTV

**06.15, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.25 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Сериал.
**06.50** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.05, 20.15** "Минск и минчане".
**08.20, 23.05** "Технология".
**08.35** "Автопанорама".
**08.55** "Театральные истории".
**09.10** Боевик **"Гадюка".**
**10.50** "Эти эксцентричные люди". Док.фильм.
**11.30** "Скетч шоу".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Территория смерти". Док.фильм.
**13.50, 18.30** "Домик с собачкой". Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или ОсоБое Желание".** Сериал.
**15.15** "Рыцари света". Мультсериал.
**15.40** Мультфильмы.
**16.00** "Дом, который построю я".
**16.15** "Тема дня".
**17.00** "Классика юмора".
**118.15** "Светская хроника".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Автопанорама".
**20.55** Комедия **"Моя мачеха – инопланетянка".**
**23.15** "Реактивный бокс".
**23.40** "Новости СНГ".
**23.55** Боевик **"Красный змей".**

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45 Сверстницы".** Художественный фильм.
**19.10** К-видео "Топ-8".
**19.30 "Приключения Шерлока Холмса".** Многосерийный **фильм. "Охота на тигра".** 2-я серия.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Региональный репортаж".
**21.10 "Рыбка по имени Ванда".** Криминальная комедия.

### ТВ ЦЕНТР

**07.45** Газетный дождь.
**07.55 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**08.45, 19.05 "Жизнь продолжается".** Сериал.
**09.35** Европейские ворота России.
**09.45** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 18.50, 21.00, 23.00** События.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.05** Караоке стрит.
**11.20** Секретные материалы. расследование ТВЦ.
**11.55** Денежный вопрос.
**12.10, 20.00** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30** "Неприрученная природа Азии".
**15.00** Регионы. прямая речь.
**15.30** Каля-маля.
**16.00 "Тайны Ниро Вульфа".** Сериал.
**17.15** "Приглашает Борис Ноткин".
**18.00 "Разлученные".** Сериал.
**19.00** Пять минут деловой Москвы.
**20.25** Выборы-2004.
**21.40** "Народ хочет знать".
**22.30** Времечко.
**23.25** Фильм **"Нежная кожа".**
**01.25** Мода non-stop.
**04.45** "Настроение".

### EUROSPORT

**09.30** Ралли.
**10.00** Футбол.
**12.00** Лыжные гонки.
**13.30** Футбол.
**16.00** Велоспорт.
**18.00** Прыжки с трамплина.
**20.15** Футбол.
**00.15** Экстремальные виды спорта.
**00.45** Футбол.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 730 экз. Заказ № 605.